# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК


ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 52 (774) БЕЛАСТОК 27 СНЕЖНЯ 1970 г. ЦАНА 60 гр.




I сакратар ЦК ПАРП Эдвард Герэк.

# VII ПЛЕНУМ ЦК ПАРП

20 снежня 1970 г. адбылося VII пленарнае пасяджэнне Цэнтральнага Камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі.

Пленум даў ацэнку становішча ў краіне і прыняў неабходныя пастановы. Пленум прыняў адрачэнне **Уладзіслава Гамулкі** ад абавязкаў I сакратара ЦК і члена Палітычнага бюро ў сувязі з яго цяжкай хваробай. Пленум выбраў на пасаду I сакратара ЦК — **Эдварда Герка.**

Пленум перадаў Уладзіславу Гамулку найлепшыя пажаданні хуткага выздараўлення.

Пленум пастанавіў звольніць ад абавязкаў членаў Палітычнага бюро і Сакратарыята ЦК: **Баляслава Ягчука, Зенона Клішку і Рышарда Стшалецкага** і ад абавязкаў члена Палітычнага бюро **Марыяна Спыхальскага.**

У склад Палітычнага бюро ЦК увайшлі: **Эдвард Бабюх, Пётр Ярашэвіч, Мечыслаў Мочар, Стэфан Альшоўскі і Ян Шыдляк.**

Намеснікі членаў Палітычнага бюро ЦК: **Войцех Ярузэльскі, Генрык Яблонскі і Юзэф Кэмпа.** У склад Сакратарыята ЦК увайшлі: **Эдвард Бабюх, Казімеж Барцікоўскі і Станіслаў Кацёлак.**

Пленум абавязаў Палітычнае бюро разгледзець на працягу найбліжэйшых дзён мерапрыемствы, якія папраўілі б матэрыяльнае становішча найменш забяспечаных і шматдзетных сем'яў, якія ў выніку праведзеных у апошнім часе змен цэн панеслі найбольш адчувальныя страты ў сваіх бюджэтах. (ПАП).




Біблійная легенда пра Саламона прыпомнілася мне, калі я слухаў расказы Мікалая Дзмітрука з Кляшчэль у Гайнаўскім павеце. Гэта пажылы, вопытны чалавек, яшчэ даваенны падпольшчык, загадвае міжгуртковай машына-трактарнай базай.

Сёння аднак болей цікавіць мяне яго грамадская дзейнасць, яго функцыя вясковага *«Саламона»*, які ўмее рассудзіць набалелыя людскія справы. Мікалай Дзмітрук ужо трэці год узначальвае *грамадскую паяднаўчую камісію, якая існуе пры* грамадскім камітэце *Фронту адзінства народа* ў Кляшчэлях.

Вось у вёсцы Сухавольцы пасварыліся суседзі за калодзеж.

— Доўга я не мог разабрацца ў гэтай справе, — прызнаецца Мікалай Дзмітрук. — Слухаю аднаго, здаецца, яго праўда. Слухаю другога, дык выходзіць, што і той таксама праўду гаворыць. Рашыў урэшце паехаць у Сухавольцы і разабрацца на месцы. Было гэта восенню 1968 года. Заязджаю ў вёску, клічу абодвух пасвараных суседзяў і пытаю іх, чаго хочуць.

«Ён мне не дае доступу да калодзежа!» — гаворыць адзін.

«А чаго ён лазіць праз мой панадворак!» — крычыць другі.

Пастаяў я, паслухаў, паглядзеў, што і як, ды прапаную ім:

— А вы перастаўце плот так, каб да калодзежа быў доступ ад дарогі.

«Што з гэтага, калі я тады вымушаны буду круціць калавараот левай рукой!» — пярэчыць адзін з суседзяў.

— Дык ты зрабі сабе ручку з другога боку, — гавару яму.

— Так, гэта праўда, — згадзіўся ён. Мікалай Дзмітрук тут жа дапамог абодвум суседзям наладзіць разбітую цэмбравіну і перасунуць крыху плот. Так закончылася сварка за калодзеж паміж Васілём Рутай і Альяшом Зялінкай.

Але са скаргамі прыходзілі іншыя. Вось хаця б такая справа, якая здарылася ў мінулагоднюю зіму.

— Памятаеце, — пытае мяне Мікалай Дзмітрук, — якая шматснежная ды лютая была гэта зіма? Кляшчэлеўскія пажарнікі наладзілі грамадскі чын, каб расчысціць праезд на вуліцах нашага пасёлка. Дык трэба нам ведаць, што ёсць у нас адзін старажыл, пенсіянер — *Нікадэм П.* Расчышчаючы дарогу, пажарнікі наблізіліся да яго сядзібы. Нікадэм П. усадзіў твар у акно і ўзіраўся на іх працу. Вуліца тут вельмі вузкая. Дык пажарнікі кідалі снег за плот. Калі стары пенсіянер убачыў, што яму агародчык завальваюць снегам, раззлаваўся, выскачыў з хаты і пачаў крычаць на змучаных працай пажарнікаў. Адзін з іх не вытрымаў гэтага дакору і адрэзаў старому:

— Ах, ты фашыст пракляты! Мы тут добраахвотна, грамадскім чынам мучымся, каб табе быў добры праход і праезд, а ты яшчэ з языком на нас!

Мянушка *«пракляты фашыст»* запякла старому пенсіянеру да жывога, ён не пусціў яе міма вушэй, справу накіраваў у суд. Суд аднак па прычыне малой шкоднасці чыну адаслаў яе на разбор *паяднаўчай камісіі.*

— Склікаў я, — расказвае Мікалай Дзмітрук, — пленарнае пасяджэнне нашай камісіі. Разглядалі мы тады аж 4 справы. Народу ў клубе сабралася столькі, што ўсім месца не хапіла.

Пытаю пакрыўджанага і абвінавачаных: хочаце пагадзіцца? Адзін і другія згодна адказваюць, што не, не хочуць, што жадаюць, каб сапраўдны суд разабраўся ў іх справах.

Дык тады звяртаюся я да абвінавачаных і гавару ім: *паглядзіце на гэтага пажылога чалавека, дзяржаўную пенсію мае, двух сыноў выгадаваў, якія цяпер у войску афіцэрамі служаць. Скажыце: такі чалавек можа быць «фашыстам», ды яшчэ «праклятым»? Ну, скажыце?!*

Працяг на стар. 4



*Надзея Прахарук — найлепшая вучаніца беларускага ліцэя ў Бельску — добры фізік.* *Фота Цаф — Сянько.*




■ Прэзідыум гарадскога аддзела Беларускага таварыства ў Беластоку абмяркоўваў справы, звязаныя з арганізаваннем навагодняга балю. Звернута была таксама ўвага на аплачванне членскіх складчын.

■ На конкурс беларускай песні, які арганізуе Беларускае таварыства, рыхтуюцца людзі з паасобных гурткоў БГКТ. І так у Орлі падрыхтоўваецца 6 асоб, а ў Кашалях 3 асобы.

■ Нядаўна ў Аўгустове гурток БГКТ прыняў у свае рады 24 новых членаў.

■ 10-га снежня ў беларускім ліцэі ў Бельску Падляшскім адбылася аўтарская сустрэча Алеся Барскага з моладдзю аднаго з чацвертых класаў. Усе прысутныя выразілі жаданне набыць яго зборнік вершаў «Жнівень слоў». Наш паэт злажыў свой аўтограф на 50-ці кніжках.

■ Драмгурток у Шымках (Беластоцкі павет) пад мастацкім кіраўніцтвам настаўніцы Данугы Салавей прыступіў да падрыхтоўкі п'есы М. Алтухова «Як я быў доктарам». Шымкаўскія самадзейнікі прымуць удзел у элімінацыях на найлепшы драмгурток, якія будзе арганізаваць беластоцкі аддзел БГКТ.

■ 12-га снежня эстрада «Лявоніха» ў памяшканні Галоўнага праўлення БГКТ выступіла з канцэртам для слухачоў двухгадовых курсаў прафесіянальнага ўдасканальвання ў Беластоку.

■ Гурток БГКТ у Патоцы (Беластоцкі павет) узначальваецца мясцовым кіраўніком чатырохкласнай школы — Міколам Краўчуком. Дзякуючы намаганням гуртка, кожная сям'я гэтай вёскі з'яўляецца падпісчыкам «Нівы».

■ Дуброўскі аддзел БГКТ займае першае месца па аплачванню членскіх складчын. Там усе члены Беларускага таварыства аплацілі складчыны за 1970 год. Другое месца займае варшаўскі аддзел. Ён аплаціў складчыны ў 89,8%, а трэцяе — гданьскі, бо аплаціў 75,5% (даныя на 30 лістапада). Найгорш аплачваюць членскія складчыны ў Беластоцкім павятовым аддзеле, які на гэтую самую дату меў аплачаныя складчыны толькі ў 23%. (мх)




## СВЕТ

### «ВЕНЕРА—7» ЗАВЯРШЫЛА ПАЛЁТ

15 снежня 1970 года аўтаматычная станцыя «Венера—7» пасля 120-сутачнага палёту дасягнула планеты Венера.

Старт аўтаматычнай міжпланетнай станцыі «Венера—7» быў праведзен 17 жніўня 1970 года. За гэты перыяд станцыя пераадолела адлегласць каля 320 мільёнаў кіламетраў і з ёй было праведзена 124 сеансы радыёсувязі, у час якіх атрыман вялікі аб'ём тэлеметрычнай інфармацыі.

12 снежня на адлегласці да Венеры ў 1 мільён 300 тысяч кіламетраў пачаліся падрыхтоўчыя аперацыі да завяршальнага этапа — уваходу ў атмасферу планеты. З гэтай мэтай па камандзе з Зямлі хімічныя крыніцы электрасілкавання апускаемага апарата былі даключаны да зарадкі да сонечнай батарэі станцыі, а тэмпература ў апускаемым апараце была зніжана да мінус 8 градусаў па Цэльсію. Зараз вынікі апрацоўваюцца і вывучаюцца.

### ПАБЛА НЕРУДА — ПАСЛОМ

Вядомы паэт і барацьбіт за мір Пабла Неруда назначан новым чылійскім урадам паслом Чылі ў Францыі.

### ВАЖНЫ ДАКУМЕНТ

Першы камітэт Генеральнай Асамблеі ААН прыняў, а пленарнае пасяджэнне Генеральнай Асамблеі зацвердзіла важны дакумент — Дэкларацыю аб умацаванні міжнароднай бяспекі. У ёй урачыста пацвярджаецца, што «кожная дзяржава абавязана ўстрымлівацца ад пагрозы сілай або яе ўжывання супраць тэрытарыяльнай цэласці, а таксама палітычнай незалежнасці любой іншай дзяржавы і што тэрыторыя дзяржавы не павінна быць аб'ектам ваеннай акупацыі ў выніку ўжывання сілы ў парушэнне палажэнняў Статута ААН». Тэрыторыя дзяржавы не павінна быць аб'ектам набыцця іншай дзяржавай у выніку пагрозы сілай або яе ўжывання, гаворыцца ў дэкларацыі, і ніякі тэрытарыяльны набытак у выніку гэтага не павінен прызнавацца законным.

### НАПЯРЭДАДНІ ЮБІЛЕЮ

Французская камуністычная партыя святкуе сваё 50-годдзе. Гэта знамянальная дата ў гісторыі французскага камуністычнага і рабочага руху адзначаецца пад лозунгам «50 гадоў вернасці рабочаму класу, народу і нацыі, 50 гадоў вернасці ленінізму». Устаноўчы з'езд Французскай кампартыі адбыўся 29 снежня 1920 года.

### СРОДКІ НА АДУКАЦЫЮ У ЗША...

1500 каледжаў і універсітэтаў ЗША перажываюць фінансавы крызіс. З-за недахопу сродкаў, навучальныя ўстановы, у якіх навучаецца 77% студэнтаў Амерыкі, стаяць на грані скарачэння важных адукацыйных праграм.

### ...І Ў СССР

На ўтрыманне вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў выдзяляецца ў 1971 годзе 3,3 мільярда рублёў, г. зн. на 4,3% больш, чым у 1970 годзе. Падрыхтоўка кожнага спецыяліста з вышэйшай адукацыяй каштуе тут у сярэднім каля 5 тысяч рублёў. За мінулыя 15 год у СССР адкрыта 18 новых універсітэтаў. Цяпер іх колькасць узрасла да 51. (ак)

## БССР

### «ПОЛЫМЯ», № 500

З друку выйшаў пяцісоты нумар літаратурна-мастацкага і грамадска-палітычнага часопіса «Полымя». Пяцьсот кніжак! Гэта ўся паслярэвалюцыйная гісторыя беларускай літаратуры, яе люстэрка, яе поспехі і недахопы, яе жывы працэс развіцця. За час свайго існавання «Полымя» надрукавала на сваіх старонках усё лепшае, што з'явілася ў нашай літаратуры, усё, што сёння ўвайшло ў залаты фонд нацыянальнай беларускай, але і ўсёй перадавой савецкай літаратуры. Прыгадаем хоць бы паэзію Я. Купалы, Я. Коласа, М. Чарота, К. Крапівы, П. Глебкі, А. Александровіча, П. Броўкі, М. Танка, А. Куляшова, П. Панчанкі, прозу Ц. Гартнага, З. Бядулі, К. Чорнага, М. Лынькова, М. Зарэцкага, П. Галавача, Э. Самуйлёнка, І. Шамякіна, Я. Брыля, І. Мележа. Паэмы, раманы і аповесці гэтых і многіх іншых літаратараў, апублікаваныя ў «Полымі», сталі шырока вядомыя далёка за межамі Беларусі, перакладзены на многія мовы народаў свету.

### ПЕСНІ — ГІСТОРЫЯ

Акадэмія навук БССР мае намер ажыццявіць шматтомнае выданне вусна-паэтычнай творчасці беларускага народа. Адзін з тамоў, «Песні савецкага часу», (складальнік Г. Барташэвіч. Складальнік музычнай часткі В. Ялатаў. Рэдактар тома К. Кабашнікаў. Выд. «Навука і тэхніка», 1970) паявіўся ўжо на кніжных паліцах. Пачынаецца гэты том вельмі паэтычнай песняй «У Маскве сяе ночы Ленін будзе...» Гэты твор — адзін з першых у беларускай фальклорнай Ленініяне. Многія песні ўслаўляюць подзвігі Чырвонай Арміі і яе мужных камандзіраў — Будзённага, Варашылава, Чапаева, Шчорса і іншых. У другім раздзеле сабраны песні, узнікшыя ў перыяд сацыялістычнага будаўніцтва. Вельмі ўдала падабраны песні аб Вялікай Айчыннай вайне. У раздзеле, які адносіцца да пасляваеннага перыяду, сабраны творы, дзе раскрываецца подзвіг народа-будаўніка.

### УСТОЙЛІВЫЯ НА МАРОЗ

З галоўнага канвеера Мінскага аўтазавода сышла чарговая партыя спецыяльных аўтамабіляў «МАЗ—500 С», прызначаных для работы ва ўмовах нізкіх тэмператур.

Машыны маюць шэраг асаблівасцей. Кабіна ўцеплена, прадугледжаны двайныя вокны. Запусціць рухавік пасля адкрытай начной стаянкі дапамагае спецыяльны абагравальнік.

### У ЛІК 1973 ГОДА

Больш як 200 рабочых Віцебскага завода гадзіннікавых дэталей працуюць у лік 1972 года. А на працоўным календары паліроўшчыц А. Драздовай, Е. Аляшчэнка, станоўшчыцы Т. Шарыкавай і слесара А. Патоцкага — 1973 год.

За пяцігодку прадукцыйнасць працы на прадпрыемстве ўзрасла ў два разы, сабекошт вырабаў знізіўся на 28 працэнтаў. (вр)

## ПОЛЬШЧА

### ПАЛІТЫЧНАЕ БЮРО ЦК ПАРП

Члены:
- Стэфан Альшоўскі
- Эдвард Бабюх
- Эдвард Герэк
- Стэфан Ендрыхоўскі
- Станіслаў Кацёлак
- Уладзіслаў Кручак
- Ігнацы Лога-Савінскі
- Мечыслаў Мочар
- Юзэф Тэйхма
- Юзэф Цыранкевіч
- Ян Шыдляк
- Пётр Ярашэвіч

Намеснікі членаў:
- Юзэф Кэмпа
- Генрык Яблонскі
- Мечыслаў Ягельскі
- Войцех Ярузэльскі

### САКРАТАРЫЯТ ЦК ПАРП

Эдвард Герэк — І Сакратар ЦК ПАРП
Стэфан Альшоўскі
Эдвард Бабюх
Казімеж Барцікоўскі
Станіслаў Кацёлак
Мечыслаў Мочар
Артур Старэвіч
Юзэф Тэйхма
Ян Шыдляк

### КАМЮНІКЕ АБ СТАНЕ ЗДАРОЎЯ ТАВ. ЎЛ. ГАМУЛКІ

У сувязі з хваробай Уладзіслава Гамулкі публікуем наступнае камюніке аб яго стане здароўя:

Некалькі тыдняў назад у пацыента выступілі парушэнні ў сістэме кровазвароту, якія стваралі прамінаючыя перабоі ў зроку. Тады ён быў паддадзены медыцынскаму абследванню праф. д-р Т. Крвавіча — кіраўніка акулістычнай клінікі Медыцынскай акадэміі ў Люблінe, члена Польскай акадэміі навук, які прадпісаў хвораму адпачынак і фармакалагічнае лячэнне.

19 снежня 1970 г. раніцай гэтыя азнакі хваробы паявіліся зноў ва ўзмоцненай ступені, і лекарскі кансіліум у складзе: праф. д-р З. Асканас, дац. А. Чыжык і д-р С. Владарчык, — прадпісалі бальнічнае лячэнне, якому пацыент паддаўся. Сцверджана павышэнне артэрыяльнага ціску, перабоі ў кровазвароце аж да пераходнага занікання зроку, а таксама стан агульнага ператамлення.

20 снежня 1970 г. а гадз. 11 кансіліум у складзе: праф. д-р Д. Аляксандраў — член Польскай акадэміі навук, праф. д-р З. Асканас — кіраўнік IV клінікі ўнутраных хвароб Медыцынскай акадэміі ў Варшаве, дац. д-р А. Чыжык — кіраўнік III клінікі ўнутраных хвароб Медыцынскай акадэміі ў Варшаве і ардынатар аддзела ўнутраных хвароб лячэбніцы праф. д-р Л. Стэмпень — кіраўнік неўрахірургічнай клінікі Медыцынскай акадэміі ў Варшаве, д-р В. Мыга — кансультант акуліст лячэбніцы, д-р С. Владарчык — ардынатар неўралагічнага аддзела лячэбніцы, — пацвердзіў вышэй пададзены дыягноз і прадпісаў працягваць бальнічнае лячэнне.

Лячэнне будзе патрабаваць даўжэйшага часу.

Д-р Р. Гасеўскі,
дырэктар лячэбніцы.
Праф. д-р Ю. Кастшэўскі,
міністр здароўя і грамадскай апекі
Варшава, 20 снежня 1970 г.

## ВАЯВОДСТВА

### ПАВЯТОВЫЯ КАНФЕРЭНЦЫІ

У мінулым тыдні ў многіх паветах адбыліся павятовыя справаздачна-выбарчыя канферэнцыі ПАРП. Першыя канферэнцыі адбыліся ў Дуброве, Голдапе, Кольне, Алецку і Сейнах. У мінулую суботу — у Гайнаўцы, Граеве, Моньках, Лапах, Саколцы і Высокамазавецку. Прадстаўнікі павятовых партарганізацый правялі ацэнку двухгадовай дзейнасці партыі ў сваіх мясцовасцях, аналізавалі важныя палітычныя, грамадскія і гаспадарчыя праблемы, а таксама накрэслілі праграму дзейнасці арганізацыі на наступныя два гады. Выбраны былі новыя ўлады і дэлегаты на ваяводскую канферэнцыю.

### ВЫКАНАЛІ ПЛАН

Многія прамысловыя прадпрыемствы Беласточчыны выканалі ўжо гадавы план на 1970 год.

На днях на Беластоцкім прадпрыемстве будаўнічых элементаў адбылася нарада прафсаюзнага актыву. Гэтае прадпрыемства выканала гадавы план ужо 8 снежня, а да канца года дасць звыш плана каля 5 тыс. куб. метраў жалезабетонаў і бетонаў.

### СУСТРЭЧА ЛАЎРЭАТАЎ

Нядаўна ва Ухове адбылося ўрачыстае заканчэнне ваяводскага конкурсу на найлепшы вясковы клуб культуры. На сустрэчу сабраліся прадстаўнікі найбольш актыўных пляцовак. Найлепш у ваяводстве працавалі клубы ў вёсках Клімашэўніцы і Бабры (Граеўскі павет), а таксама найстарэйшы ў ваяводстве клуб «Руху» ва Ухове. Многія дзеячы культуры з розных паветаў атрымалі ўзнагароды і ганаровыя дыпломы.

### У НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КАМІСІІ

9 снежня г.г. адбылося чарговае пасяджэнне Нацыянальнай камісіі Ваяводскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў Беластоку. Прысвечана яно было абмеркаванню працы рэдакцыі «Нівы» ў гадах 1967—70. Члены камісіі жыва цікавіліся нашай дзейнасцю і выказалі шмат прапаноў адносна ўдасканалення яе. Апінію Нацыянальнай камісіі аб «Ніве» можна абагульніць сцвярджэннем, што рэдакцыя належна выконвае сваю ролю.

### УЖО ВЫЙШАЎ

### «БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР» НА 1971 ГОД

Ужо выйшаў з друку і паступіў у продаж «Беларускі каляндар» на 1971 год. Шырэй аб ім напішам у наступным нумары. Сёння інфармуем, што налічвае ён 208 старонак, каштуе 10 злотых і можна купіць яго ў ГП БГКТ, у нашай рэдакцыі і ў аддзелах Беларускага таварыства. Галоўнае праўленне можа таксама выслаць каляндар за залічэннем паштовым. Адрас ГП: **ZARZĄD GŁÓWNY BIAŁORUSKIEGO TOWARZYSTWA SPOŁECZNO - KULTURALNEGO, BIAŁYSTOK, UL. WARSZAWSKA 11.**

Чытачы з БССР, якія хацелі б атрымаць каляндар, павінны даслаць новыя(!) беларускія кніжныя выданні вартасцю ў 1 рубель.




**NIEDZIELA, 27.XII.**

8.30 Program dnia; 8.35 „Przypominamy, radzimy"; 8.50 Tańce na lodzie; 9.50 Dla młodych widzów: „Winnetou" — film fab. jug.-niem., cz. III; 11.20 „Na stadionach świata"; 11.50 „Persepolis" — film dok.; 12.00 Dziennik; 12.15 Koncert z okazji 25-lecia Rozgłośni Polskiego Radia w Szczecinie; 13.15 „Przemiany"; 13.45 „Niedaleko od Grunwaldu" — rep.; 14.05 Dla dzieci: „Bajki pana Brzechwy" — widowisko Wrocławskiego Teatru Lalek; 14.45 „Spotkania z przyrodą"; 15.15 Felieton Literacki prof. dr J. Z. Jakubowskiego „Piękna sztuka pisania listów"; 15.30 „Romeo i Julia" — program baletowy; 16.00 „Piórkiem i węglem"; 16.25 Teatr Niedzielny: I. Turgieniew — „Noc w oberży „Pod Wielkim Dzikiem"; 17.35 „Klub Sześciu Kontynentów" („Indianie bez pióropuszy"); 18.20 „Śpiewa „Mazowsze" — film TVP; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik 20.05 „Dyliżans na zachów" — program roz. („Raz, dwa, trzy..."); 20.50 PKF; 21.00 „Węgierski magnat" — film fab. węg.; 22.35 Magazyn Sportowy.

**PONIEDZIAŁEK 28.XII.**

16.25 Program dnia; 16.30 Dziennik; 16.40 Dla dzieci: „Zwierzyniec"; 17.30 „Echo stadionu"; 17.55 „Spacerkiem po kinach"; 18.25 Magazyn Postępu Technicznego; 19.00 „Szwecja — Norbotten" — rep.; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 Teatr TV: H. Fielding — „Cnota uciśniona"; 21.25 „Kulig" — progr. rozrywkowy; 21.55 „Ciepło, zimno, gorąco"; 22.25 Dziennik.

**WTOREK, 29.XII.**

9.00 „Teleferie"; 10.00 Przerwa; 10.15 „Zoltan Karpathy" — film fab. węg.; 11.35 Przerwa; 16.25 Program dnia; 16.30 Dziennik; 16.40 TV Ekran Młodych; 18.25 Wszechnica TV: „Z wizytą u prof. Stefana Ślopka" („Nasi uczeni"); 19.00 „Historia instrumentów muzycznych" — film rum.; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Zoltan Karpathy" — film fab. węg.; 21.25 „Wielcy znani i nieznani"; 22.05 Dziennik; 22.20 „Przeboje" — progr. rozr.;

**ŚRODA 30.XII.**

9.00 „Teleferie"; 10.00 Przerwa; 10.15 „Narodziny Forsyte'a" — film tv ang. („Saga rodu Forsytów"); 11.05 Przerwa; 15.55 Program dnia; 16.00 Program tygodnia; 16.30 Dziennik; 16.40 Dla młodych widzów: „Stocznia na stole"; 17.15 Magazyn ITP; 17.30 „Sąsiedzi" — rep.; 18.00 „Obrońcy Stalingradu" — film radz.; 18.30 „Model czy eksperyment"; 19.00 TV Kurier Warszawski; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Narodziny Forsyte'a" — film tv ang. („Saga rodu Forsytów"); 20.55 „Świat 70" — międzynarodowy przegląd roku; 21.35 „Trzy razy muzyka" — grają orkiestry Polskiego Radia i Telewizji; 22.35 Dziennik.

**CZWARTEK, 31.XII.**

9.00 „Teleferie"; 10.00 Przerwa; 15.40 Program dnia; 15.45 „Oferty"; 16.00 „Na szlaku" — mag. turystyczny; 16.30 Dziennik; 16.45 Dla młodych widzów: XV Trójmecz Harcerski; 17.45 „Pięciolistna róża" — program muzyczny; 18.10 „Czekanie" rep.; 18.40 „Rytmy Ameryki Łacińskiej" — program rozr.; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 Przemówienie Noworoczne; 20.15 „Piosenki z połowy świata"; 21.10 „Julio, jesteś czarująca" — film franc.; 22.20 „Melodie Wielkiego Ekranu" — piosenka polska; 23.10 „Muzyka taneczna"; 23.55 Życzenia Noworoczne; 0.05 Rozrywkowy program Sylwestrowy.

**PIĄTEK 1.I.1971**

8.55 Program dnia; 9.00 Dla młodych widzów: „Elza z afrykańskiego buszu" — film fab. ang.; 10.30 „Przeżyjmy to jeszcze raz" („Sport 1970"); 11.30 „Sylwetki" (I); 11.45 Dziennik; 12.00 Dla dzieci: TV Teatr Lalek — K. Jeżewska „Chłop i diabeł"; 13.30 Międzynarodowy Konkurs skoków narciarskich (Garmisch Partenkirchen); 15.30 „Pogwarki świąteczne Adolfa Dygacza"; 16.00 „Sylwetki" (II); 16.15 „Noworoczne poprawiny" („Dymek z papierosa"); 17.10 „Sylwetki" (III); 17.25 „Francuskie Varietè — program TV francuskiej; 17.50 „Kraj"; 18.30 „Sopot 70" — program rozr.; 19.00 „Sylwetki" (IV); 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik 20.05 „Sylwetki" (V); 20.15 „W imieniu prawa"; 21.20 „Sylwetki" (VI); 21.30 „Książę sezonu" — film fab. TVP; 22.30 Magazyn sportowy; 23.00 „Przeżyjmy to jeszcze raz" („Sport 70").

**SOBOTA 2.I.**

9.00 „Teleferie"; 10.00 Przerwa; 15.50 Program dnia; 15.55 TV Kurs Rolniczy: „Pielęgnacja maciory"; 16.30 Dziennik; 16.40 Dla młodych widzów: „Chłopcy" — film fab. radz.; 17.30 „Leśny sylwester" — film radz.; 18.30 „Pegaz"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.20 Teatr Rozrywki: M. Bałucki — „Radcy pana radcy"; 21.30 Dziennik; 21.50 „Madame Sans Gene" — film fab. franc.-hiszp.; 22.30 „Ślady na śniegu" — progr. rozr.




**PIĄTEK, 25 grudnia**

8.15 Komunista i czas; 8.30 Skrzydła nad polami; 8.55 W świecie zwierząt; 10.00 Sprawozdanie sportowe; 15.05 Dla uczniów; 15.45 Leninowska „Iskra" w Białorusi; 16.05 Rosyjska czastuszka; 16.50 Kroki pięciolatki; 17.00 Spektakl teatralny; 20.10 Koncert orkiestry wojskowej; 20.45 Sprawozdanie sportowe.

**SOBOTA, 26 grudnia**

8.15 Szkatułka muzyczna; 8.30 Tydzień planety; 8.45 Koncert; 9.35 Turniej dociekliwych; 10.20 Artystka ludowa ZSRR Czaban; 11.50 Kontrolerzy; 12.20 Program młodzieżowy; 13.00 Uniwersytet ludowy; 14.30 Spotkania muzyczne; 15.00 Dla wsi; 15.30 Drogą ojców; 16.05 Koncert; 16.55 Balet; 20.15 Transmisja sportowa.

**NIEDZIELA, 27 grudnia**

8.00 Współzawodnictwo; 8.30 Turniej uczniowski; 9.30 Białe i czarne; 10.00 Dla dzieci; 10.30 Kiosk muzyczny; 11.00 System energetyczny „Mir". 11.30 Dla uczniów; 12.25 Kryzys twierdzy imperializmu; 12.55 Czerwony, żółty, zielony; 14.00 Dla wsi; 14.30 Dla żołnierzy; 15.00 Klub filmowy; 16.05 Lata walki i zwycięstw; 16.45 Koncert; 17.00 Spektakl TV; 18.15 Czas; 18.45 Film fab.

 




# Пра найлепшыя клубы

Спаборніцтва за імя «найлепшы клуб» вясковыя клубы «Рух» і «Рольніка» вядуць ад 1966 года. Мне давялося на працягу ўсіх гэтых 5-ці год быць старшынёй ваяводскай конкурснай камісіі. Сёння ў сувязі са скромным юбілеем хачу падзяліцца з чытачамі «Нівы» сваім конкурсным вопытам і рэфлексіямі.

Спачатку некалькі лікаў. У конкурсе за 1966 год прыняло ўдзел 116 клубаў. У наступных гадах колькасць іх узрастала: 1967 — 231 клубаў, 1968 — 336, 1969 — 368. У 1970 годзе дасягнула больш як паўтысячы; конкурс ахапіў усе клубы, якія існуюць у вёсцы.

Юбілей пяцігоддзя — гэта нагода, каб прадставіць найлепшых лаўрэатаў конкурсу. У паасобных гадах найлепшымі клубамі ў ваяводстве былі: год 1966 — клуб «Рух» ва Ухове (Лапскі павет), 1967 — клуб «Рух» у Крамкаўцы Малой (Манецкі пав.) і клуб «Рольніка» ў Баршчэве (Беластоцкі павет), год 1968 — клуб «Рольніка» ў Бухвалове (Сакольскі пав.), у Боцьках (Бельскі пав.), клуб «Рух» у Старым Беразове (Гайнаўскі пав.) і Плацічне (Сувальскі пав.), год 1969 — клуб «Рух» у Дзянконях (Манецкі пав).

У 1970 годзе спаборніцтва выйгралі: клуб «Рольніка» ў Клімашавіцы (Граеўскі пав.) і клубы «Рух» ва Ухове (Лапскі пав.) і Бобрах (Граеўскі пав.). На пахвалу заслужылі таксама клубы ў Нурцы, Радзішэве Сенчуку і Крупіцах у Сямяціцкім пав., Жэдні і Клепачах у Беластоцкім пав., Сакалянах у Сакольскім пав.

Як паказвае вопыт, спаборніцтва мае вялікі ўплыў на актывізацыю грамадска-культурнай дзейнасці на вёсцы. Родзіцца ініцыятыва, зацікаўленне, гуртуюцца людзі вакол працы, шукаюць дарогі да лепшых вынікаў. Расце роля вясковага клуба культуры як цэнтра культурнага жыцця. А яшчэ так нядаўна гаварылася пра клубы як «даўнейшыя святліцы», у якіх толькі «Рух» або ГС уставілі столікі, далі кіёск з газетамі і пачалі прадаваць каву.

Розніца паміж клубамі і колішнімі святліцамі заключаецца ў тым, што можна ў клубе выпіць каву ці чай, купіць газету, кніжку, цукеркі, папяросы, зубную пасту, мыла... У святліцы ўсяго гэтага не было. Але гэта розніца не найважнейшая. Клубы адкрыты ў вызначаныя гадзіны і днём, багацей і эстэтычней абсталяваны. Даюць яны лепшыя і шырэйшыя магчымасці культурнай працы і прыемнага адпачынку. Клуб па свайму характару вельмі набліжаецца да гарадскіх клубаў.

Добрая праца клуба і яго аўтарытэт у вёсцы ідзе ад людзей, ад іх актыўнасці. Таму варта сказаць некалькі слоў пра гаспадароў клубаў і многіх грамадскіх дзеячоў культуры. Назавем тых першых на лініі: Эва Коск і Марыя Крынская з Радзішэва Сенчук, Надзея Трашчотка і Мікалай Семянюк са Старога Беразова, Тэрэса і Адам Козел з Рудкі, Леакадыя і Алойзы Стасевічы з Клепачоў, Люба Бакун і Станіслаў Кахаcоўскі з Сакалян, Лідзія Майсак і Генрык Цяжкоўскі з Жэдні, Генавефа Люцыян і Ядвіга Пётрашко з Боцькаў. Сярод гэтай вялікай групы большасць — гэта гаспадары клубаў, якія сваёй працай даказалі, што так, як і настаўнікі ці іншая вясковая інтэлігенцыя, могуць быць добрымі культурна-асветнымі дзеячамі.

Шырэйшай па формах стала праца ў клубах. Клубы арганізуюць летам дзяцінцы і гадзіны казак для дзяцей. Вядуць з дзецьмі заняткі па мастацтве. Гаспадары клубаў сцвярджаюць, што дзеці — вельмі ўдзячны элемент для працы ў клубах. Самую актыўную клубную групу складае моладзь. Але і старэйшыя зразумелі карысную ролю клубаў, часта клубы наведваюць і часта просяць арганізаваць клубы ў вёсках, дзе няма ніякай культурнай установы.

Ведаем, што яшчэ многа непрацёртых шляхоў у клубнай дзейнасці. Ёсць бляскі і цені ў нашым клубным руху. Таму вітаць трэба імкненне да ўдасканальвання праграмаў і форм працы клубаў у рамах конкурсу на найлепшы клуб.

*Казімір Даркоўскі*




# Гаспадарлівасць

Трэба сказаць праўду: у журналісцкай практыцы значна часцей чуваць песімістычныя нараканні, чымсьці добры творчы аптымізм. Асабліва часта пры тым чуваць нараканні на недахоп рознага роду інвестыцыйных сродкаў — на недахоп падтрымкі з боку ўлад пры пабудове клубаў, святліц, школ і іншых аб'ектаў вясковага жыцця. Нараканні цягнуцца гадамі, ездзяць пры тым ад установы да ўстановы, дыскутуюць на доўгіх сялянскіх сходах — найчасцей без ніякіх вынікаў.

У Паўлах было інакш. Пачалі яны не ад нараканняў, але ад саліднай работы. Справа ў тым, што ў Паўлах няма належнага школьнага будынку. Школа знаходзіцца ў невялікай старой хаце, якую сяляне ў 1939 годзе прывезлі з вёскі Ваські. Раней была гэта леснічоўка. У будынку 3 школьныя залы. Гэта мала як на 8-класную школу. Да таго ў Паўлах з даўных-даўна цвіце мастацкая аматарская дзейнасць, а ў вёсцы няма ні клуба, ні святліцы. Мясцовыя артысты мусяць таксама выступаць у цеснай школе.

Сяляне з Паўлаў пастанавілі пабудаваць святліцу, у якой знайшлося б месца і на школьную залу і на памяшканні для настаўнікаў.

Зрабілі яны так. Выбралі на агульным сходзе камітэт, які адразу прыступіў да дзеяння — пачаў старацца закупіць у Беластоку будынак, прызначаны пад разбор. З гэтай мэтаю паўлаўскія сяляне вырашылі добраахвотна злажыцца па 300 злотых. Назбіралася 34 тысячы злотых. Гэта не многа, як на такое агульнавясковае мерапрыемства, але дастаткова, як на пачатак. Паўлаўскія сяляне папрасілі ў Гарадской радзе нарадовай у Беластоку, каб тая дазволіла закупіць ім без удзелу ў ліцытацыі нейкі прызначаны пад разбор будынак. Гарадская рада нарадовая Беластока зрабіла значна больш, чымсьці гэтага спадзяваліся паўлаўскія гаспадары, і больш, чымсьці яны яе прасілі. Дала гаспадарам на іх грамадскія мэты разборачны будынак зусім бясплатна.

Прыняліся сяляне за перавозку. Асаблівых цяжкасцей тут не было, бо ў Паўлах добры сельскагаспадарчы гурток, які мае свой транспарт. Будынак хутка быў перавезены ў Паўлы. Усё, рэч зразумелая, зроблена грамадскім чынам.

Грамадскім чынам ідзе таксама зараз у Паўлах складанне гэтага будынку. Плацяць толькі аднаму майстру па 150 злотых у дзень. Майстру штодзённа памагаюць грамадскім чынам мясцовыя сяляне — па некалькі чалавек у дзень. Трэба пры тым сказаць, што паўлаўскія гаспадары надзвычай салідныя ў грамадскай працы. Не было дагэтуль выпадку, каб хтосьці адмовіўся ад працы. Калі нехта сапраўды не мае часу, дык наймае да работы суседа, плацячы па 100 злотых у дзень, а часам і больш. Такім чынам, кожны з сялян працаваў ужо пры пабудове па 4—5 дзён.

Паўлаўскія сяляне хочуць яшчэ ў гэтым годзе аддаць будынак да выкарыстання. Будынак ліквідуе школьныя і светліцовыя клопаты Паўлаў. Стане ён дзякуючы гаспадарліваму, ініцыятыўнаму падыходу мясцовых сялян і кіраўніка мясцовай школы Аляксея Максімюка. Як дагэтуль, Паўлы не прасілі ў нікога фінансавай дапамогі ў пабудове. Дапамога аднак таксама была б ім патрэбная пры выканчэнні будынку. Добра, каб стаў ён адноўлены і прыгожы.

Гаспадарлівасць паўлаўскіх сялян відавочная не толькі пры пабудове будынку грамадскага карыстання. Відавочная яна тут на кожным кроку: у працы сельскагаспадарчага гуртка і ў прыватных гаспадарках сялян. У сельскагаспадарчым гуртку працуе зараз аж 7 трактараў, з адных плантацый трускалак даходы паасобных сялян складаюць аж да 80 тысяч злотых у год, многія гаспадары маюць уласныя аўтамашыны, тэлевізары, шэраг рознага роду найбольш сучасных, сельскагаспадарчых машын і прылад.

*Ул. Паўлючук*

## АКТЫЎНАЯ ПОП

Адной з найбольш актыўных пярвічных партыйных арганізацый з'яўляецца ПОП у Рафалоўцы (Беластоцкі павет). Арганізацыя гэтая налічвае 14 членаў і кандыдатаў партыі. У мінулай кадэнцыі правіла яна 31 сход; сходы прысвяціла справам сваёй вёскі і ваколіцы, а таксама ўнутраным справам партарганізацыі. Члены партыі праводзілі дыскусію на тэму ідэалагічна-маральнай паставы члена партыі, праходзілі курсы на партыйныя тэмы, аналізавалі выкананне грамадскіх чынаў, выкананне дырэктыў IX Пленума Цэнтральнага Камітэта партыі і шмат іншых сельскагаспадарчых спраў. Значная колькасць партыйных сходаў адбывалася супольна з актывістамі ЗСЛ і беспартыйнымі. (яц)

## У АХРЫМАЎСКІМ СЕЛЬГАСГУРТКУ

Ужо каля дзесяці гадоў існуе сельскагаспадарчы гурток у Ахрымах (Гайнаўскі павет). Мае ён абмалотачны агрэгат, 2 рухавікі, 6 збожжавых сеўнікаў, сячкарню і іншыя сельскагаспадарчыя машыны. Гурток працуе рэнтоўна. Між іншым, даход прадбачваецца і ў гэтым годзе. Працай гуртка кіруюць перш за ўсё старшыня гуртка Мікалай Сухадола з Падляўкова і бухгалтар Браніслаў Грыка з Сушчага Барка. Сельгасгуртоўцы дапамагаюць сваімі машынамі сялянам не толькі з Ахрымаў, але і з навакольных вёсак, як Сушчы Барок, Бернацкі Мост, Капітаншчына і Ляўкова. Пазычаюць яны сеўнікі, малоцяць збожжа, рэжуць сечку і дровы, а таксама робяць іншыя працы. У наступным годзе ахрымаўскія сельгасгуртоўцы намераны купіць 3 сеўнікі для мінеральных угнаенняў, сячкарню, 2 апырсквачы і 3 заправяркі. (яц)

## ЭКЗАМЕНЫ Ў ВУЧНЯЎ ПА СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЙ ПАДРЫХТОЎЦЫ

У канцы лістапада гэтага года адбыліся ў Тыкоціне дзяржаўныя экзамены вучняў 14 гурткоў па сельскагаспадарчай падрыхтоўцы III ступені з Беластоцкага павета. Да экзамену прыступіла 93 асобы і здало іх 87 асоб. Найлепш здалі экзамен: Чэслаў Лютвейка і Янка Лапінскі са Скрыбіч, Генрык Гарадавенка з Веек, Юрка Вяленя з Падзеран, Аляксей Лукашук з Дзерняхова і Зыгмунт Мароз з Касматага Барка. Усе вучні, якія здалі экзамен, атрымалі пасведчанні і могуць яны прадаўжаць сваю адукацыю ў 3-гадовых сельскагаспадарчых тэхнікумах са скарочанай праграмай навучання. (яц)

## ДОЎГАЛЕТНЯЕ СУПРУЖАСТВА

Нядаўна ў клубе «Руху» ў Старым Ляўкове (Гайнаўскі павет) адбылася нештодзённая ўрачыстасць. Менавіта намеснік старшыні прэзідыума ПРН у Гайнаўцы тав. Каліноўскі ўручыў многім жыхарам грамады Старое Ляўкова ўзнагароды Рады Дзяржавы за даўгалетнюю сужыццё. Узнагароды былі ўручаны Андрэю і Марыі Волбатам, Кастусю і Ганне Казлоўскім з Новага Ляўкова, Якубу і Агаце Каролька са Старога Ляўкова, Юльяну і Надзі Харкевічам з Міхнаўкі, Юзэфу і Матроне Мацкевічам з Падляўкова і Арсенію і Варвары Бачынскім з Ахрымаў. (яц)

## НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ



*Сакольскія дываны і гайнаўская кераміка. Фота Цаф — Сянько.*

## ШТО ЧЫТАЮЦЬ?

У грамадзе Кляшчэлі, Гайнаўская павета, найбольш чытаюць «Аграхімію» — 168 экземпляраў, затым «Газету Беластоцкую» — 133 экземпляры, «Грамаду Рольнік Польскі» — 105 экз., «Пломычак» — 75 экз., «Хлопскую Дарогу» — 73 экз., «Ніву» — 69 экз., «Пшыспособене Рольнічэ» — 41 экз., «Плён» — 24 экз. і г.д. Усіх разам падпісак ёсць 848. (яц)

УСЁ ЛЮДСКОЕ НАМ НЕ ЧУЖОЕ




# Аўтобусам №83725

Дзесяткі аўтобусаў штодзень выязджаюць з брамы беластоцкай аўтобуснай станцыі на вуліцы Юравецкай. Тысячы твараў мігаюць у гэтых аўтобусах. На розныя шляхі і дарогі выязджаюць людзі. Папулярныя ПКС-ы давозяць усюды, спалучаюць найдалейшыя вёскі са светам.

Стаю на прыстанку № 11 беластоцкай аўтобуснай станцыі. Людзі чакаюць ляніва. Бабы з сумкамі, сеткамі, пакункамі. Няма кошыкаў — выйшлі з моды. Слухаю, што гавораць. Мешаніна слоў, акцэнтаў, адценняў. Тыповая мова паўночна-ўсходняй Беласточчыны. Дзве жанчыны — адна ў шапцы, другая хусткай абкручаная, разгаварыліся голасна на ўсю плошчу. Аб чымсьці, што слухаеш і адразу забываеш. Помніцца толькі ажыўленасць размовы і мяккасць гукаў, якімі захапляюцца ў цэнтральнай Польшчы, а якіх саромяцца на ўсходзе Польшчы.

Пад'язджае наш аўтобус. Бабы найперш прапіхаюць у дзверы свае пакункі, высока паднімаюць ногі. Некаторыя ўсё ж перакідваюцца назад. Мужчыны, нібы ветліва, падпіхаюць іх і іхнія тлумокі.

Выязджаем на шырокую двухбаковую гарадскую артэрыю — вуліцу Леніна. Вуліца стала адной з найбольш сучасных вуліц горада. Пасярэдзіне растуць ужо дрэўцы. А бакамі імчаць, імчаць і імчаць розныя машыны. Як далёка кінеш вокам, бачыш яе стройную лінію. Дзесь там на гарызонце выбягае яна проста ў поле, яшчэ зеленеючае. З боку толькі, над старымі хатамі акраін Беластока, выглядаюць новыя будынкі новага квартала — «Пяста».

На першым прыпынку выходзіць адна асоба. У аўтобусе наогул ціха. І толькі пані ў хустцы безупынна расказвае нешта пані ў шапцы. Словы яе выразна чую, калі аўтобус затрымліваецца: «Як я будавалася, то купілі бляху і пшэставілі старую хату»... Голас чую далей, але не разумею — рушыў аўтобус з шумам.

Прыпынкамі ўсеяна дарога. На іх пачакальні з трыма сценамі пад дахам. Ля кожнай сцяны лаўкі. На цэнтральнай унутранай сцяне пачынаю чытаць лозунг: «Miejsce naszego pobytu świadczy o naszej kulturze». Цешуся, што словы пра культуру і тут знайшліся. Няхай людзі прывыкаюць, думаю. Але зрок падае ніжэй і пад прыгожым лозунгам бачу паламаную лаўку. Сумна тырчаць кускі дрэва...

Едзем далей. Прыціхла гаварлівая пані. Спіць, паклаўшы галаву на руку ў цёплай узорыстай рукавіцы, трымаючыся поручні папярэдняга сядзення. Спіць, стукаючы рытмічна ў такт язды сваім ілбом у сваю рукавіцу. Яе суседка прыглядаецца, усміхаецца. Аўтобус трапіў на выбоіну. Баба стукнулася моцна, прачнулася і засмяялася. Завяла недаканчаную размову...

Новы прыстанак і новы лозунг: «W czystym pomieszczeniu przyjemnie upływa czas». Пад лозунгам перавернутая ў пяску лаўка. Прыходзіць думка, што гэтыя добра апранутыя людзі, якія тут чакаюць аўтобуса, ніколі ў жыцці не прачыталі гэтага лозунга. Яны ўвогуле не пераймаюцца сваёй пачакальняй. Як яны — абутыя ў жоўтыя казачкі, адзетыя ў футры і кажухі, могуць вытрымаць у непаладках, на гэта толькі мо самі адказалі б. На наступным прыпынку новы лозунг аб чысціні і парадку ў нашым жыцці. І новы пад гэтым лозунгам непарадак і ніякай чысціні.

Пачынаюць мяне гэтыя лозунгі нерваваць. Радасць мая, што словы пра культуру завандравалі ў лясныя аўтобусныя прыстанкі, знікае як камфора.

*Вера Леўчук*



 

46.

— Ну, цяпер можна пачынаць, — сказаў Віктар. — Ты раскладай агонь, а я там буду пільнаваць.

Мірон разгроб нару шырэй, глыбей, так, каб агонь быў пад верхнім пластом зямлі, і падпаліў. Калі разгарэлася, Мірон пачаў кідаць вільготнае старое лісце, трухлявае галлё. Густы дым распоўзся каля нары, але, здавалася, зусім не ішоў усярэдзіну.

— Што рабіць? — крыкнуў ён Віктару. — Дым не ідзе ў нару.

— Нічога! — адгукнуўся той. — Частка яго трапляе! Дзьмухай!

Мірон пачаў дзьмухаць. Справа пайшла лепш: і лепш гарэла, і дым уганяўся ўсярэдзіну.

Віктар жа стаяў ля другога выхаду і напружана чакаў. На ліса пашкадаваў сваёй булавы і ўзяў Міронаву дубіну. Доўга цягнуўся час. Усё здавалася, што вось ужо нешта там варушыцца, але нікога не было. Не так ужо шмат часу прайшло, а хлопцам пачало здавацца, што яны стаяць тут немаведама колькі. Мірон нецярпліва пазіраў у Віктараў бок. Той усё стаяў з паднятай дубінай, нібы скамянелы. Рукі яго здранцвелі.

Нарэшце сапраўды заварушылася.

Але Віктар ледзь не выпусціў дубіны з рук, калі ўбачыў замест лісінай галавы доўгую, белую морду з дзвюма чорнымі палосамі ўздоўж яе.

Тырканулася морда раз-другі — і зараз жа назад. Але вось каля яе з'явіўся маленькі дымок... Бедная жывёліна вымушана была вылазіць... Праўда, яна не бачыла ворага, бо Віктар стаяў ззаду, але ўсё роўна адчувала бяду. Віктар ужо здагадаўся, што гэта за звер, і супакоіўся: гэтая нязграбная жывёліна не паспее ўцячы, як ліс!

Жывёліна зрабіла пару крокаў наперад: паказалася спіна з шараватаю грубай поўсцю.

Віктар апусціў дубіну раз... другі... Жаласна кулігнула жывёліна свіным голасам...

— Гатова! — крыкнуў Віктар.

Мірон мігам падбег да яго.

— Што гэта такое?! — вылупіў ён вочы.

— Барсук! — урачыста адказаў Віктар. — Але ж стой! Яшчэ нешта варушыцца!

З нары вылазіла двое барсучанят, якія здурнелі ад дыму. Яны былі такія мілыя, пацешныя, што хлопцам і ў думку не прыйшло іх забіваць. Іх забралі жывымі.

— Вось табе і яшчэ жывёла для гаспадаркі! — сказаў Віктар.

— Я ж казаў, што трэба будаваць добры хлеў.

— А есці іх можна? — зараз жа запытаўся Мірон.

— Ніхто не забараняе, але звычайна іх не ядуць.

— А скура каштоўная?

— Не вельмі. За дарослага рублёў пяць атрымаць можна.

— Тады і важдацца з імі не варта, — скрывіўся Мірон.

— Але ж яны цікавыя і хутка асвойваюцца. Апрача

48.

імі і цецерукі паўцякалі. Як мы маглі гэтага не прадугледзець? Нават і ты, спец па заалогіі, не прадбачыў.

Віктар стаяў, апусціўшы галаву, і сапраўды адчуваў сябе вінаватым.

— І то праўда, — прамовіў ён. — Калі яны рыюць сабе норы, значыцца, маглі і нават павінны былі і тут прарыць. Але ў такой справе ніякіх спецыяльных ведаў не трэба: ты сам мог гэта добра ведаць, але вось не падумаў.

— Я ж казаў, што не трэба было важдацца з імі, — злосна адказаў Мірон. — Ніякай карысці ад іх няма. Трымаць іх для пацехі ў нашым становішчы зусім лішняе. А цяперака праз іх і цецерукі ўцяклі. Вось табе і жывёлагадоўля!

—А ўсё ж пра гэта ты і сам не думаў, — апраўдваўся Віктар. — Каб сказаў, зусім іншая была б справа. Няма чаго вінаваціць другога. Сам дапамагаў. Другі раз будзем разумнейшымі.

— Чакай цяпер другога разу!

Паахалі, павохкалі, але дапамагчы справе нічым не маглі. А паколькі ў «сажалцы» хапала рыбы, то вялікай бяды пакуль што не было. Праз некалькі хвілін нават пачалі жартаваць.

— У другі раз для кожнай пароды жывёлы будзем рабіць асобныя, спецыяльна прыстасаваныя памяшканні, — суцяшаў Віктар. — А пакуль што давай ляпіць гаршчок.

— А ты ведаеш, як ляпіць? — запытаўся Мірон з трывогай.

— Хто з нас калісьці не ляпіў? — бесклапотна адказаў Віктар. — Нездарма кажуць: не святыя гаршкі лепяць.

— Тут не ляпіць, а круціць трэба, — пахмура адказаў Мірон.

— Давай круціць — усё роўна. Ты, мусіць, добра ведаеш гэту справу?

—Чаму ж так я? — здзівіўся Мірон.

— Ды ты ж сам надоечы апяваў гліну, паэму дэкламаваў.

Мірон паскроб патыліцу.

— Паэма паэмай, — прамовіў ён, — а як робяцца гаршкі я не бачыў. Неяк не траплялася. Справа лічыцца такой простай, што, я думаў, няварта спецыяльна наглядаць, вывучаць яе. Можа, ты часам бачыў?

— І я не бачыў! — з камічнай мінай адказаў Віктар. — Таксама не цікавіўся гэтай прымітыўнай прамысловасцю. Усе дзікуны ўмеюць гэта рабіць. Я нават недзе чытаў, што егіпцяне чатыры тысячы гадоў назад выдумалі нейкую прыладу для гэтай вытворчасці. Але, я думаю, зляпіць абы-які гаршчок можна і без усякай прылады.

— Паспрабуем, — панура адказаў Мірон.

Як ён цяпер шкадаваў, што не пацікавіўся гэтай справай! Яму таксама даводзілася чытаць, ён меў нават некаторыя тэарэтычныя веды, але як узяцца за справу — не ведаў.

"Беларуская песня-71"

# АЖАНІЦЦА—ТРЭБА ЗНАЦЬ

БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ПЕСНЯ

*Апрацоўка К. Паплаўскага*

Ажаніцца — трэба знаць,
Жонцы волі не даваць.
Ох, я, бедны я,
Бедна галоўка мая.

Цэлы тыдзень па вяселлі
Не вылазіла з пасцелі.
Ох, я, бедны я,
Бедна галоўка мая.

А як толькі паднялася,
Дык камандаваць ўзялася.
Ох, я, бедны я,
Бедна галоўка мая.

Сцялі ложак, мяці хату,
А я збегаю да таты.
Ох, я, бедны я,
Бедна галоўка мая.

Сагрэй ваду, сячы дровы,
Ды каб быў абед гатовы.
Ох, я, бедны я,
Бедна галоўка мая.

Як напала, як насела,
Галава аж палысела.
Ох, я, лысы я,
Лыса галоўка мая.

І не бачыў, як то стала,
Мяне жонка асядлала.
Ох, я, бедны я,
Бедна галоўка мая.

Ажаніцца — трэба знаць,
Жонцы волі не даваць.
Ох, я, бедны я,
Бедна галоўка мая.




КУТОК ГАСПАДЫНІ

## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### КАРНАВАЛЬНЫЯ КАКТЭЙЛІ

І так, настаў новы год, год 1971. Першае, што прынёс ён нам — гэта перыяд карнавалу, час, калі гуляюць дарослыя і дзеці, час, калі нават не выпадае не павесяліцца. А павесяліцца варта, бо ў нашым, уласна кажучы, шэрым штодзённым жыцці замнога такіх аказій няма. А калі ўжо весяліцца, дык культурна, і неабавязкова заліваццa гарэлкай.

Аднак, калі запрашаем каго-небудзь у госці, прыемна падаць нешта разагравaючае, ды такое, што магло б падняць настрой. Дасканалым выйсцем у такім выпадку маглі б быць кактэйлі. Кактэйлі могуць быць мацнейшыя — з алкаголем ці віном, але для дзяцей і моладзі можна зрабіць кактэйлі з фруктовых сокаў ці малочныя.

Сёння падаем рэцэпты на кактэйлі крыху мацнейшыя, так сказаць, карнавальныя. Кактэйлі не патрабуюць шмат працы.

*Апельсінавы кактэйль.* 1 апельсін і 2 лімоны парэзаць на скрылёчкі і перасыпаць некалькімі лыжкамі цукру. Пакінуць у шкляным збане на 24 гадзіны. На другі дзень заліць бутэлькай белага вытраўнага (сухога) віна. У кожную шклянку наліваць да паловы атрыманы напітак, даліць газіраваную ваду да поўнай шклянкі. Берагі шклянак прыбраць цукрам — крышталам (бераг шклянкі трэба памачыць спачатку ў ячным бялку, а пасля — ў цукры). Можна дадаць да кактэйлю лёд (па кавалку ў кожную шклянку).

*Ананасавы кактэйль.* Размяшаць банку ананаснага соку, вялікі кілішак вішнёўкі і 5 лыжак цукру так, каб цукар зусім распусціўся. Уліць у шкляны збанок і дапоўніць халоднай газіраванай вадой.

*Кактэйль з чырвонага віна.* 6 кавалкаў цукру, прасякнутых сокам з паловы лімона, заліць шклянкай вады, бутэлькай чырвонага віна; дадаць яшчэ паўшклянкі каньяку. Усё ўліць у шкляны збанок, дадаць 2 апельсіны, парэзаныя на скрылёчкі. Перад падачай палажыць у шклянкі кавалкі лёду.

*Кактэйль моцны.* Бутэлька вытраўнага вермуту, 1/4 літра ялаўцоўкі (джыну) і банку соку ананаснага або апельсінавага змяшаць, а перад падачай палажыць у кожную шклянку кавалак лёду і скрылёчкі лімона.

*Лімонны кактэйль.* 6 кавалкаў цукру заліць у шкляным збанку шклянкай лімоннага соку, дадаць бутэльку паўсалодкага вермуту і шклянку чыстай гарэлкі, усё гэта вымяшаць і пакінуць на некалькі гадзін. Перад падачай дадаць кавалкі лёду і лімонную скурку, парэзаную спіраллю.

Прыемнай забавы!

*Гаспадыня*

В. БЕРАЖКОЎ

З ДЫПЛАМАТЫЧНАЙ ГІСТОРЫІ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

## ТЭГЕРАНСКАЯ СУСТРЭЧА

### 5. АНГЛА-АМЕРЫКАНСКІ ПЛАН ПАДЗЕЛУ ГЕРМАНІІ

Ад тэгеранскай сустрэчы да перамогі над гітлераўскай Германіяй было яшчэ вельмі далёка. Савецкім арміям яшчэ трэба было ў цяжкіх баях прайсці сотні кіламетраў, узяць штурмам мноства гарадоў, фарсіраваць буйныя водныя рубяжы, і яшчэ многія тысячы савецкіх, амерыканскіх, англійскіх воінаў, змагароў Супраціўлення павінны былі аддаць жыццё ў гэтай тытанічнай бітве. Павінны былі адбыцца цяжкія баі на Усходнім фронце, высадка саюзнікаў у Нармандыі, крывапралітныя бітвы ў Ардэнах, вызваленне Францыі і іншых краін, акупіраваных нацыстамі.

У Тэгеране ўсе разумелі, што да таго моманту, калі з усходу, захаду, паўночы і поўдня войскі саюзнікаў перасякуць германскія граніцы і пойдуць на апошні штурм агульнага ворага, пройдзе нямала часу. Але тое, што гэты момант настане, ні ў каго не выклікала сумнення. Усе былі ўпэўнены ў канчатковай перамозе антыгітлераўскай кааліцыі.

Натуральна таму, што на Тэгеранскай канферэнцыі не раз узнікала пытанне аб тым, як быць саюзнікам з Германіяй пасля перамогі. Тое, што дзяржавы фашысцкай асі павінны безагаворачна капітуляваць, не выклікала рознагалоссяў: тут панавала аднадушнасць. Але трэба было думаць і аб тым, якія прыняць захады, каб Германія, што на працягу жыцця аднаго пакалення двойчы ўцягвала чалавецтва ў сусветную вайну, ніколі больш не змагла развязаць новую агрэсію.

Упершыню гэта пытанне абмяркоўвалася вечарам 28 лістапада. Дзень быў даволі напружаны, і Рузвельт, які выглядаў стомленым, папрасіўшы ў сваіх калег прабачэння, адправіўся да сябе. Чэрчыль, Сталін, Ідэн і Молатаў перайшлі ў суседні пакой, дзе было пададзена кофе.

Курачы цыгару, Чэрчыль зазначыў, што саюзнікі павінны нанесці такі сакрушальны ўдар па Германіі, каб яна ніколі больш не магла пагражаць іншым народам. Сталін згадзіўся з гэтым, але заўважыў, што, калі не будуць прыняты асобныя меры, Германія хутка адновіць свой патэнцыял і стане зноў пагрозай для міру. Чэрчыль не згадзіўся з гэтым пунктам гледжання.

Ён сказаў, што ўжо цяпер, у выніку вялікіх страт на савецкім фронце, а таксама бамбардзіровак, якім падвяргае Германію авіяцыя саюзнікаў, яе людскія рэзервы і ваеннапрамысловы патэнцыял у значнай ступені вычарпаны, а к канцу вайны Германія падверг-

